ГАЗЭТА БЕЛАРУСАЎ У ВОЛЬНЫМ СЬВЕЦЕ ЦАНА — PRICE $ 1.00

# Беларус

BIELARUS — BYELORUSSIAN NEWSPAPER IN THE FREE WORLD
POST ADDRESS: BIELARUS, P. O. BOX 109, JAMAICA, N. Y. 11431. Tel.: (212) 380-2036

Год XXVI, № 228 New York, April — Красавік, 1976 Vol. XXVI, № 228

## НА СЬМЕРЦЬ УЛАДЗІМЕРА ДУБОЎКІ

Газэта „Літаратура і Мастацтва" за 26 сакавіка сёлета паведаміла, што 20 сакавіка памёр на 76-ым годзе жыцьця адзін з найвыдатнейшых беларускіх паэтаў — Уладзімер Дубоўка. Ён нарадзіўся 15 ліпеня 1900 году ў вёсцы Агароднікі Пастаўскага раёну Віцебскай вобласьці (былы Вялейскі павет Віленскай губэрні). Страта Ўладзімера Дубоўкі — вельмі вялікая й балючая страта для беларускае літаратуры й культуры наагул.

Ня часта зьяўляюцца ў літаратуры паэты гэткае глыбіні, гэткага шырокага творчага дыяпазону й наватарскага характару, якім быў Уладзімер Дубоўка. Уладзімер Дубоўка перш-наперш вялікі талент, аўтар вялікае колькасьці лірычных вершаў і паэмаў, а апошнімі гадамі й аповесьцяў у прозе, ён і аўтар твораў для дзяцей і моладзі, ён і перакладнік у беларускую мову выдатных твораў сусьветнае клясычнае літаратуры, галоўна Шэкспіра й Байрана, ён і літаратурны тэарэтык, крытык, мэтр новае беларускае літаратурнае плыні 20-х гадоў — узвышэнства. Уладзімер Дубоўка й тэарэтык і практык у галіне разьвіцьця й культуры беларускае літаратурнае мовы.

У кажнай з гэтых галінаў дасягненьні й заслугі Ўладзімера Дубоўкі проста калясальныя, перааценіць іх проста немагчыма. І ўсё гэта зроблена Дубоўкам пераважна на працягу ўсяго 25-ёх год ягонае творчае актыўнасьці. На працягу-ж цэлых 28-ёх год найбольш працаздольнага жыцьця, ад ягонага арышту 20 ліпеня 1930 году й да рэгабілітацыі ў 1958 годзе, на ссылцы і ў канцлагерах, на фізычнай працы, Уладзімер Дубоўка быў пазбаўлены ўсякіх магчымасьцяў літаратурнае дзейнасьці. Сам Дубоўка ў сваёй аўтабіяграфіі ў 1963 годзе адзначыў, што ў тым часе ён „як пісьменьнік нічога не рабіў".

Найбольш плённая літаратурная дзейнасьць Уладзімера Дубоўкі прыпадае на 20-ыя гады да ягонага арышту ў 1930 годзе, калі ён у ліку колькіх сотняў беларускіх культурных працаўнікоў быў зьвінавачаны ў гэтак званым беларускім нацыянальным дэмакратызьме. Спад Дубоўкавага пяра выйшла ў 20-х гадох вялікая колькасьць вершаў і колькі паэмаў, што запачаткавалі новую мастацкую плынь у беларускай літаратуры ды мелі дабрадзейны ўплыў на іншых паэтаў — ягоных сяброў, аднадумцаў і пасьлядоўнікаў. Адзін па адным у гэным дзесяцігодзьдзі зьяўляліся зборнікі Дубоўкавых вершаў: „Строма", „Трысьцё", „Крэда", „Наля", паэмы „Там, дзе кіпарысы", „Браніслава", трылёгія гэтак званых „камбайнаў" („Кругі", „І пурпуровых ветразяў узвівы", „Штурмуйце будучыні аванпосты").

У гэтых творах асабліва моцна прагучэлі матывы беларускага патрыятызму. Некаторыя нацыянальныя праблемы выказаў паэт адкрыта й беспасярэдня, некаторыя-ж, найбольш нясугучныя партыйнай палітыцы, выражаў ён пры дапамозе часта практыкаванай у гэным часе й іншымі беларускімі паэтамі крыптаграфіі - тайнапісу; шырака, усебакова й удала выкарыстоўваў Уладзімер Дубоўка беларускі фальклёр і народную мову.

Пасьля свае рэгабілітацыі Ўладзімер Дубоўка, не зважаючы на свой паважны ўжо век, зь вялікім уздымам аднавіў літаратурную дзейнасьць. Творачы далей у галіне паэзіі, Дубоўка з добрай удачай заняўся й мастацкай прозай. Вынікам ягонае літаратурнае дзейнасьці пасьлярэгабілітацыйнага пэрыяду была ягоная кніга вершаў „Палеская рапсодыя", два тамы „Выбраных твораў", колькі аповесьцяў для дзяцей і моладзі „Жоўтая акацыя", „Ганна Алейка", „Пялёсткі", „Як Алік у тайзе заблудзіўся", а на ягоныя



75-ыя ўгодкі ў ліпені летась выйшаў вялікі зборнік ягоных вершаваных казак для дзяцей пад агульным загалоўкам „Залатыя зярняты".

Усе Дубоўкавы кнігі мастацкае прозы для вучняў і моладзі поўныя цікавага й карыснага пазнавальнага матар'ялу, прасякнутыя важнымі для ўзгадаваньня маладога пакаленьня ідэямі беларускага патрыятыму й пачуцьцём гарачае любасьці да ўсяго свайго роднага. І сучасная літаратурная крытыка й пісьменьніцкая ды, хіба-ж, і чытацкая грамадзкасьць ставяць Дубоўкавы празаічныя творы на першым месцы сярод твораў сучасных беларускіх дзіцячых пісьменьнікаў.

На свае 75-ыя ўгодкі зьмясьціў Уладзімер Дубоўка летась у газэце „Літаратура й Мастацтва" вялікі ўрывак із свае новае паэмы, яшчэ й дасюль цалкам ня выдрукаванае, ды няведама, ці нат закончанае, „Варты вартага і варты". Паэма мае глыбокую ідэйную вымову для сяньняшняга дня, калі ўся літаратурная творчасьць дырэктыўна накіроўваецца на ўслаўленьне партыйнае палітыкі й на безаглядную для яе службу.

Уладзімер Дубоўка ў гэтай паэме „Варты вартага і варты", напісанай фактычна не для дзяцей, а для дарослых, супрацьставіў гэтай партыйнай палітыцы кірунак, з нацыянальнага беларускага гледзішча найважнейшы. Кірунак гэты — на долю будучых пакаленьняў. Вось фінальныя словы твору:

„. . . даражэй за ўсё на нашым
сьвеце, —
ня будзе лішніх слоў тут,
зразумела, —
адно,
але якое:
Дзеці!"

Дзеці — гэта нацыянальная будучыня народу. Словы гэтыя даюць вычарпальны адказ на пытаньне, чаму паэта апошнім часам бадайшто вылучна прысьвячае свае творы для дзяцей.

У сьвятле сумнага факту сьмерці паэты, словы гэтыя, дый увесь твор гучаць як паэтаў запавет сучаснай беларускай літаратуры.

Ня можна, бязумоўна, абыйсьці й факту, што Ўладзімер Дубоўка час-часам сьпяваў гімны й камунізму. Калі гэтыя хваласьпевы ўспрыймаць як шчырыя ,дык хіба толькі ў ягоных творах 20-х гадоў, калі яшчэ літаратурнай моладзі магло верыцца, што партыйная практыка, асабліва ў дзейнасьці беларускіх нацыянал-камуністычных элемэнтаў, будзе ў згодзе з камуністычнай тэорыяй. Затое ў ніякім выпадку нельга даць веры ў шчырасьць падобных хваласьпеваў камунізму й партыі ў Дубоўкавых парэгабілітацыйных творах, асабліва ў ягоным зборніку „Палеская рапсодыя", калі партыйная практыка даволі пацьвердзіла свой адыход ад тэорыі клясычнага камунізму. Гэтыя Дубоўкавы хваласьпевы трэба расцэньваць адно як няўхільную даніну партыі, дзякуючы якой паэта мог наагул быць творча актыўным. Трэба не забывацца, што калі ўсю мастацкую літаратуру сяньня трымае партыя пад строгім кантролем, дык у дачыненьні да пісьменьнікаў, што ў 30-ых гадох былі рэпрэсіяваныя, а напрыканцы 50-ых гадоў рэгабілітаваныя, таўро гэтага кантролю асабліва войстрае й безагляднае.

Несьмяротныя заслугі Ўладзімера Дубоўкі, як ужо згадвалася, і ў галіне культуры беларускае літаратурнае мовы й руплівасьці пра ейную чысьціню. Сучасныя беларускія літаратураведы Алег Лойка й Юльян Пшыркоў у другім выпуску міжвузаўскага зборніка „Літаратура й літаратарузнаўства", зьмясьцілі цікавы артыкул пад загалоўкам „Дойліды новай культуры". Гэтымі дойлідамі новае беларускае культуры назвалі яны пісьменьнікаў заснаванага ў 1926 годзе беларускага літаратурна-мастацкага згуртаваньня „Ўзвышша", перша-наперш і галоўна Ўладзімера Дубоўку. І гэта ня толькі за ягоную літаратурную дзейнасьць, але й за дзейнасьць у галіне разьвіцьця й культуры беларускае мовы або, як назвалі яны яе — моватворчую дзейнасьць.

Працы й артыкулы Ўладзімера Дубоўкі на моваведныя тэмы друкаваліся яшчэ ў 20-ых гадох. Тым ня менш яны актуальныя й сяньня. Як ведама, напрыканцы 50-ых — сярэдзіне 60-ых гадоў, у сувязі з агульным літаратурным уздымам у выніку асуджэньня сталіншчыны, сярод беларускіх паэтаў і пісьменьнікаў аднавіўся рух за чысьціню й культуру роднае мовы ды ейнае ўзбагачаньне зь нявычэрпнае скарбніцы мовы народнае. І рух гэты пайшоў дакладна тым шляхом, які пракладаў у другой палавіне 20-ых гадоў Уладзімер Дубоўка, а таксама Кузьма Чорны ды іншыя ўзвышэнцы.

Месца Ўладзімера Дубоўкі ў беларускай літаратуры савецкага пэрыяду, бяз гэных 28-ёх гадоў ягонага рэпрэсіяваньня, адно зь вядучых і вызначальных для беларускага літаратурнага працэсу. На Дубоўкавы мастацкія дасягненьні арыентуюцца шмат якія лепшыя пісьменьнікі малодшага пакаленьня, ягоныя нацыянальныя ідэі жыватворна ўплываюць на творчасьць гэтага пакаленьня. Пасьля свае рэгабілітацыі Ўладзімер Дубоўка жыў на чужыне ў Чаромушках у Маскве, часам даяжджаючы ў Менск у беларускіх літаратурных справах. На чужыне Дубоўка й памёр — прычым, дасюль не падаецца, як і ад чаго — ды там-жа й пахаваны. Трэба думаць, што беларуская грамадзкасьць зробіць усё магчымае, каб ягоны прысак, як калісьці Янкі Купалы, быў перавезены на Беларусь, якую, як ейны верны сын, горача любіў, за якую цярпеў і для нацыянальнага ўзвышша якой ахвярна працаваў.

**Ст. Станкевіч**



**Дэлегацыя Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня ў Кангрэсе ЗША ў дзень малітвы за Беларусь, і Амэрыку. Зьлева направа: кангрэсмэн Джэк Ф. Кэмп, а. прат. Васіль Кендыш, сьпікер Палаты Рэпрэзэнтантаў Карл Альбэрт, капэлян Кангрэсу а. Эдвард Г. Лач, мгр. Раіса Станкевіч, д-р Янка Запруднік, д-р Вітаўт Кіпель**

Пратаярэй Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы а. В. Кендыш, з нагоды 58-х угодкаў абвешчаньня незалежнасьці Беларусі, прачытаў 6 красавіка сёлета ў Палаце Прадстаўнікоў Задзіночаных Штатаў малітву за Амэрыку й Беларусь. Ніжэй падаём у беларускім перакладзе тэкст малітвы:

**„У імя Айца, і Сына, і Сьвятога Духа.**

**Войча наш, Ты — Тварэц, Настаўнік і Судзьдзя.**

**Мы молім Цябе, вызвалі нас ад усіх слабасьцяў і кіруй нас на кажным кроку нашага жыцьця па шляху праведнасьці.**

**Вечны Божа, блаславі нашага Прэзыдэнта й Кангрэс, умацуй мудрасьцяй розум іхны, узмацні любасьцяй сэрцы іхныя, а чыны — адвагай і справядлівасьцяй.**

**Ласкавы Божа, мы молім Цябе ў гэтым годзе Двухсотнага Юбілею Амэрыкі й на 58-ыя ўгодкі абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі: блаславі Задзіночаныя Штаты Амэрыкі; блаславі Беларусь і ейны прыгнечаны народ у ягоным цярпеньні і ў ягоным змаганьні зь бязбожным камунізмам. Вывядзі яго, Божа, зь няволі й надары яго свабодай, якое годныя ўсе Твае дзеці. Амінь".**

Перад прачытаньнем малітвы дэлегацыя Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня ў складзе а. Васіля, сп-чны Раісы Станкевіч, др. Вітаўта Кіпеля й др. Янкі Запрудніка наведала ньюёркаўскага кангрэсмэна Джэка Кэмпа, аднаго з тых, што ўзялі ўдзел у наладжаньні малітвы. Пасьля прачытаньня малітвы кангрэсмэн Кэмп выступіў у Палацe Прадстаўнікоў з прамоваю, адзначыўшы ў ёй адданасьць Беларусаў Амэрыкі справе перахаваньня свае культурнае спадчыны ды падтрымваньня ідэі свабоды й незалежнасьці Беларусі. Ад імя Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня былі перададзеныя кангрэсмэну Кэмпу й сьпікеру Палаты Прадстаўнікоў Карлу Альбэрту падарункі ў форме вышываных беларускім народным арнамэнтам альбомаў. Альбомы былі выкананыя мастачкай беларускае вышыўкі сп-няй Юляй Андрусышынай.

**Я. З.**

## САКАВІКОВЫЯ ЎГОДКІ Ў КЛІЎЛЕНЬДЗЕ

Сьвята Беларускае Незалежнасьці ў Кліўленьдзе, дзякуючы ініцыятыўнасьці ўправы й сяброў аддзелу Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня, прайшло на належным арганізацыйным і палітычным узроўні. У чацьвер 25 сакавіка на цэнтральнай плошчы гораду быў вывешаны беларускі сьцяг. У беларускім рэлігійна-грамадзкім цэнтры 27-28 сакавіка была адчыненая выстаўка народнага мастацтва.

У нядзелю Мітрапаліт БАПЦ Уладыка Андрэй у суслужэньні а. Максіма, які прыбыў з Дэтройту, адслужыў сьв. Літургію й Малебен за Беларусь. Суладна й паўнагучна пяяў царкоўны хор пад кіраўніцтвам рэгента сп. Ул. Літвінкі. Уладыка Андрэй у сваім прыгожым казаньні гаварыў пра патрэбу ахвяры ў імя ідэалаў свабоды свайго народу ды пра зьбаўленнасьць веры, што памагае гэтыя ідэалы перахоўваць.

Папаўдні адбылася акадэмія, якую адчыніў старшыня аддзелу БАЗА сп. Янка Раковіч. Сп-ня Іра Сьмірноў-Каляда выканала амэрыканскі гімн. Акадэмію вёў сп. Андрэй Гасьцееў. Палк. Я. Шымчык у дакладзе пабеларуску даў агляд гістарычных падзеяў ад часоў Вялікага Княства Літоўскага да Другога Ўсебеларускага Кангрэсу. Др. Я. Запруднік у дакладзе паангельску гаварыў пра савецкую рэакцыю на сьвяткаваньні Беларусамі ЗША ўгодкаў незалежнасьці Беларусі.

З прывітальнай прамовай выступіў Прэзыдэнт Рады БНР др. В. Жук-Грышкевіч, зьвярнуўшы ўвагу на русыфікацыйную палітыку расейскага рэжыму на Беларусі ды гвалчаньне ім Гэльсінкаўскага пагадненьня. Мэр гор. Кліўленду Ралф Пэрк у сваёй прамове заклікаў Беларусаў Кліўленду да салідарнасьці зь іншымі этнічнымі групамі Амэрыкі ў іхным супольным змаганьні за правы сваіх паняволеных народаў. Мэр Пэрк прачытаў таксама сваю праклямацыю Дня Беларускае Незалежнасьці ў гор. Кліўленьдзе, які лікам сваіх жыхароў стаіць на 10-ым месцы ў ЗША. Асобную праклямацыю прачытала таксама сяброўка гарадзкое рады Кліўленду Мэры Роўз, выступіўшы із словамі прывітаньня ад імя ўсяе гарадзкое рады (33 радныя). Прадстаўнік сэнатара Тафта сп. Т. Шмагала перадаў прывітаньне ад сэнатара ды прачытаў выступленьне, зь якім сэнатар Тафт выступіў з нагоды 58-ых угодкаў БНР у Сэнаце ЗША. Прамаўляў таксама сябра гарадзкое рады Кліўленду сп. Сьліва, крытыкуючы сучасную капітуляцыйную палітыку Вашынгтону ў дачыненьні да паняволеных народаў Усходняе Эўропы. Сп. Павал Васілеўскі прачытаў праклямацыю Беларускага Дня Незалежнасьці губэрнатара штату Агаё Дж. Родса. Сп. Раковіч вітаў прысутных на залі гасьцей: др. В. Жук-Грышкевіча, ген. Я. Сажыча з жонкаю, старшыню аддзелу БАЗА з Дэтройту інж. Я. Бруцкага, прадстаўнікоў іншанацыянальных арганізацыяў украінскіх, нямецкае, чэскае, славацкае.

У мастацкай частцы выступалі пад гучныя воплескі гледачоў: з салёвымі нумарамі сп-ня Іра Сьмірноў-Каляда, сп. Мікалай Стрэчань, жаноцкі ансамбль „Васількі" (пад акампаніямэнт на акардыёне сп. Ул. Літвінкі), танцавальны гурток моладзі з двума народнымі танцамі (пад кіраўніцтвам сп-чны Марысі Каваленка), малая піяністка Натальля Сьмірноў-Каляда ды йшчэ меншы дэкляматар Паўлік Ягодзік.

Урачыстасьць закончылася беларускім нацыянальным гімнам, пасьля чаго адбылося прыняцьцё для ўдзельнікаў сьвята, наладжанае руплівымі захадамі кіраўніцтва аддзелу БАЗА ды працавітымі рукамі ягоных сяброў і сябровак.

Да сьвяткаваньня аддзел БАЗА выдаў асобнай брашурай праграму сьвяткаваньня, упрыгожыўшы яе „Пагоняй" і народным арнамэнтам ды зьмясьціўшы на ёй таксама карту Беларусі ў ейных этнаграфічных межах ды ангельскі тэкст трэйцяе Ўстаўное Граматы, г. зн. Акту 25 Сакавіка 1918 году.

**Я. З.**

## У КАНГРЭСЕ ЗША ПРА НЕЗАЛЕЖНАСЬЦЬ БЕЛАРУСІ

У „Кангрэсавых Запісах" за 25 сакавіка 1976 г., з нагоды 58-ых угодкаў абвешчаньня Беларускае Рэспублікі, зьмясьцілі свае заявы ў падтрыманьне нацыянальнае й дэмакратычнае свабоды Беларусі: кангр. Фрэнк Анунцыё із штату Іліной, кангр. Ўільям Брумфільд із штату Мічыган, кангр. Пітэр Родыно Малодшы із штату Нью Джэрзі, кангр. Робэрт Роў зь Нью Джэрзі, кангр. Чарльс Ўэйлэн Малодшы із штату Агаё, кангр. Рональд Сарасін із штату Канэктыкат, сэнатары Пэрсы ад штату Іліной, Баклі ад штату Нью Ёрк і Тафт ад штату Агаё.

У „Кангрэсавых Запісах" за 31 сакавіка зьмешчаная заява кангр. із штату Нью Ёрк Джозэфа Адаба, кангр. із штату Пэнсыльванія Томаса Моргана, сэнатара Ўільямса ад штату Нью Джэрзі.

У „Кангрэсавых Запісах" за 6 красавіка зьмешчаная малітва за Беларусь і Амэрыку а. В. Кендыша й прамова кангр. Джэка Кэмпа із штату Нью Ёрк.

**BIELARUS**

Byelorussian Newspaper in the Free World
Published monthly by
BYELORUSSIAN-AMERICAN ASSOCIATION, Inc.
Subscription $10.00 yearly.

„БЕЛАРУС" — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
Выходзіць месячна. Рэдагуе Калегія.
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
Выпіска зь перасылкаю — 10.00 дал. на год.
Незамоўленыя рукапісы назад не зьвяртаюцца.
Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам аўтара, могуць выражаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

# ДВУХСОТГОДЗЬДЗЕ ЗША Й 58-Я ЎГОДКІ АКТУ 25 САКАВІКА Ў НЬЮ ЁРКУ



**Раіса Станкевіч і Ніна Запруднік выступаюць з галоўнымі дакладамі**

Як і папярэднімі гадамі, сьвяткаваньне 58-х угодкаў абвешчаньня незалежнасьці Беларусі пачалося Службай Божай у катэдральным саборы БАПЦ у Нью Ёрку. Божую Службу адправілі пратаярэй а. Васіль Кендыш і пратаярэй а. Карп Стар. Пасьля Сьв. Літургіі быў адслужаны адмысловы Малебен за Беларусь і ў памяць беларускіх гэрояў, што палі за ідэю свабоды й справядлівасьці. Пазьней а. Васіль сказаў прыгожую прынагодную казань на тэму векапомнага Акту 25 Сакавіка, якую з увагай праслухалі вернікі дзьвюх аб'яднаных парахвіяў — Нью Ёрку й Нью Брансьвіку.



**Танцавальная група Нью Ёрку „Мяцеліца" выконвае танец „Мяцеліца"**

А 2:30 гадзіне таго-ж дня ў Музычнай залі гатэлю „Білтмор" (на Мангатане) у Нью Ёрку пачалася ўрачыстая Акадэмія, прысьвечаная нацыянальнаму сьвяту. Сьвяткаваньне было арганізаванае Галоўнай Управай БАЗА, ягонымі аддзеламі ў Нью Ёрку й Нью Джэрзі ды Арганізацыяй Беларуска-Амэрыканскай Моладзі. Акадэмію адчыніў старшыня Галоўнай Управы БАЗА Антон Шукелайць. Пасьля амэрыканскага нацыянальнага гімну, выкананага солё сп-няй Лізай Маркоўскай пад акампаньямант праф. Эльзы Зубковіч, і малітвы настаяцеля БАПЦ катэдральнага сабору Сьв. Кірылы Тураўскага прат. а. Васіля Кендыша, сп. Антон Шукелайць у сваёй прамове (паангельску) адзначыў: **„Сяньня мы Амэрыканцы беларускага паходжаньня й беларускія эмігранты ў Задзіночоных Штатах Амэрыкі сьвяткуем 58-я ўгодкі абвешчаньня Беларускай Дэмакратычнай Рэспублікі, што мела месца 25 сакавіка 1918 году ў Менску. Беларуская Дэмакратычная Рэспубліка хутка была паняволеная расейскімі бальшавікамі. Гэты 1976 год — двухсоты год Задзіночаных Штатаў мы разам з усімі Амэрыканцамі сьвяткуем Дзень Незалежнасьці гэтага краю, абаснаванага на прынцыпах свабоды й дэмакрацыі. Нашае сьвяткаваньне жывіць надзею ўсіх волялюбных людзей, што Беларуская Дэмакратычная Рэспубліка хутка будзе адноўленая".**

Далейшае вядзеньне ўрачыстасьці сп. Антон Шукелайць перадаў сп-ру Вячаславу Станкевічу, былому старшыні Галоўнай Управы БАЗА, а цяпер віцэ-старшыні гэтае ўправы.



**Танцавальная група Нью Джэрзі „Васілёк" выконвае танец „Полька-Васілёк"**

Пасьля гэтага сп-чна Вера Запруднік прачытала праклямацыю бурмістра гораду Нью Ёрку, а старшыня сьвяткаваньня Вячаслаў Станкевіч пералічыў праклямацыі губэрнатараў штатаў Масачусэтс, Пэнсыльвэнія, Нью Джэрзі, Нью Гэмпшыр і праклямацыю бурмістра Нью Брансьвіку, якімі ў названых гарадох і штатах дзень 25-га сакавіка 1976 году быў абвешчаны Днём Незалежнасьці Беларусі.

Як і папярэднімі гадамі, выступленьні з прамовамі й чытаньні прывітаньняў былі пераплятаныя мастацкімі вакальнымі й харэаграфічнымі нумарамі. З маладзежных танцавальных ансамбляў удала сябе паказалі танцавальныя групы „Васілёк" зь Нью Джэрзі пад кіраўніцтвам Алы Орсы-Рамано, выканаўшы народныя танцы „Полька-Вянок" і „Мікіта", і танцавальная група „Мяцеліца" зь Нью Ёрку пад кіраўніцтвам Раі Станкевіч і Ніны Запруднік, якая пратанцавала танцы „Мяцеліца" й „Крыжачок".

Апрача маладзежных мастацкіх выступленьняў зьвярталі на сябе ўвагу мастацкія нумары старэйшых, якія вызначаліся высокім талентам і прафэсыянальным падрыхтаваньнем. Гэткімі былі дуэты Лізы Маркоўскай і Гаі Тэдонэ („Асеньняя песьня" на словы Натальлі Арсеньневай і „Родны край" на словы Натальлі Арсеньневай), солё Лізы Маркоўскай (песьні „Ветру, ветру" на словы Алеся Гаруна й „Прыгажосьць Беларусі" на словы Міхася Кавыля), Жаноцкі Ансамбль —Сэкстэт у складзе Веры Бартуль, Алы Орсы-Рамано, Гаі Тэдоне, Лізы Маркоўскай, Веры Заморскай і Галіны Орсы (песьні „Мова родная, мова дзядоў" на словы Ларысы Геніюш музыкі Міколы Куліковіча, „Рэчанька", народная, музыкі Генадзя Цітовіча, „Лявоніха", словы Максіма Багдановіча музыкі Турана-



**Багдан Андрусышын выконвае патрыятычны верш у прозе „Хрыстос Уваскрос" Сяргея Палуяна**

**Усе фота зь ньюёркаўскага сьвяткаваньня А. Дубягі**

кова), а таксама Мяшаны Хор зь Нью Ёрку пад кіраўніцтвам Міхася Тулейкі. Хор выканаў чатыры наступныя песьні: „Я ад вас далёка", на словы Янкі Купалы, музыкі Міколы Куліковіча, „Каліна, маліна", народная, музыкі Міколы Равенскага, „Вечарком за рэчкаю", народная, музыкі Міколы Равенскага, „Люблю наш край" на словы Канстанцыі Буйлы, музыкі Міколы Равенскага.

З дакладам у беларускай мове выступіла галоўны рэдактар часапісу „Беларуская Моладзь" сп-чна Раіса Станкевіч, з дакладам у ангельскай мове — старшыня Ньюёркаўскага Аддзелу АБАМ сп-чна Ніна Запруднік. Сп-чна Раіса Станкевіч адзначыла ў сваім дакладзе факт юбілейнасьці гэтага году — двухсотгодзьдзя Задзіночаных Штатаў Амэрыкі й 1000-годзьдзя беларускай дзяржаўнасьці. Далей яна ўспомніла пра цяжкую змагарную дарогу, цераз збройныя паўстаньні й духовае ды літаратурнае адраджэньне. Гэткімі шляхамі беларускі народ да гэтага велічнага ідэалу йдзе бесьперапынку. Старшыня Ньюёркаўскага Аддзелу Арганізацыі Беларуска-Амэрыканскай Моладзі сп-чна Ніна Запруднік спынілася больш на працы беларускіх асяродкаў у Амэрыцы, падчыркнуўшы важнасьць актывізацыі беларускае моладзі шляхам вывучэньня нашай роднай мовы, звычаяў і гісторыі.

Старшыня Галоўнай Управы АБАМ Юрка Азарка ў сваёй прывітальнай прамове сказаў, што змагарамі за незалежнасьць Беларусі былі якраз маладыя. Сымбалямі для моладзі на эміграцыі становяцца тыя, што загінулі й памерлі за Бацькаўшчыну маладымі, як Кастусь Каліноўскі, Іван Луцкевіч і Максім Багдановіч. На іх і іхнюю дзейнасьць і арыентуецца сяньняшняя моладзь.

Выдатна выступіў малады выканаўца, сябра АБАМ, Багдан Андрусышын, прапяяўшы пад уласны акампаньямант на гітары жаўнерскую песьню „У гушчарах" на словы Натальлі Арсеньневай, песьню „Спадчына" на словы Янкі Купалы ды прадэкламаваўшы найвыдатнейшы твор беларускай патрыятычнай прозы „Хрыстос Уваскрос" Сяргея Палуяна, у якім праведзенае параўнаньне цярпеньняў Хрыста з пакутамі нашага народу.

Ад імя Рэдакцыйнае Калегіі газэты „Беларус" прывітаў прысутных із сьвятам незалежнасьці галоўны рэдактар газэты „Беларус" д-р Станіслаў Станкевіч. Ён-жа зьвярнуўся із заклікам сабраць ахвяры на газэту „Беларус" і на выданьне англамоўнай брашуры БАЗА на 200-я ўгодкі Амэрыкі. Было сабрана $ 185.50 на газэту „Беларус" і $ 146.00 на згадачую брашуру.

З прысланых прывітаньняў Галоўнай Управе БАЗА было прачытанае пасланьне старшыні Рады БНР д-ра В. Жук-Грышкевіча з нагоды дня абвешчаньня незалежнасьці Беларусі Актам 25 Сакавіка 1918 году. Сташыня Рады БНР заклікаў беларускае грамадзтва ў Вольным Сьвеце да кансалідацыі й узмацненьня ўсіх высілкаў дзеля здабыцьця незалежнасьці нашае Бацькаўшчыны.

Прадстаўнік Камітэту Беларускага Фэстывалю ў Нью Джэрзі, што мае адбыцца 12 чырвеня сёлета, дакладна паінфармаваў пра гэты Фэстываль і заклікаў прыняць як найшырэйшы ўдзел.

Падсумоўваючы дасягненьні сёлетняга сьвяткаваньня Дня Незалежнасьці Беларусі й Двухсотгодзьдзя Задзіночаных Штатаў Амэрыкі, перш-наперш трэба з асаблівым націскам падчыркнуць выдатны ўдзел у гэтым сьвяткаваньні беларускае моладзі й ейны высокі энтузіязм. Гэта сталася магчымым дзякуючы глыбокаму разуменьню ролі моладзі з боку старшыні Галоўнай Управы БАЗА Антона Шукелайця, які стварыў шырокую магчымасьць ува ўсёй паўніні выказацца нашай моладзі. Гэта мела той радасны вынік, што калі летась моладзь была ігнараваная й адсоўваная ад удзелу ў сьвяткаваньні ўгодкаў Незалежнасьці Беларусі, дык сёлета, наадварот, мела яна поўную магчымасьць выказацца, чаго можа яна быць вартая.

Зь іншых дасягненьняў сёлетняга сьвяткаваньня неабходна падчыркнуць факт, што вядамы сэнатар зь Нью Ёрку Джэймс Батлі, які адыгрывае сяньня вельмі важную ролю ў палітычным жыцьці Амэрыкі, зьвярнуўся цераз свайго прадстаўніка сп-ню Барбару Кітынг да ўдзельнікаў ньюёркаўскага сьвяткаваньня, зазначыўшы, што БАЗА й АБАМ годна рэпрэзэнтуюць імя Амэрыкі й Беларусі. Гэты зварот сэнатара Дж. Батлі друкуецца ў беларускім перакладзе на іншым месцы гэтага нумару газэты.

**С. Ст.**

# СУСТРЭЧА Ў ВАШЫНГТОНЕ З ПРЭЗЫДЭНТАМ ЗША




**На канфэрэнцыі ў Белым Доме. Справа ад Прэзыдэнта Форда: др. Мірон Куропас, дараднік Прэзыдэнта ў справах нацыянальнасьцяў і др. Вітаўт Кіпель**

9-га сакавіка сёлета каля 15-ёх нацыянальных групаў і рэдактароў штодзённых, тыднёвых і двухтыднёвых іншамоўных і англамоўных газэтаў адбылі аднаднёвую канфэрэнцыю ў Белым Доме й Дзяржаўным Дэпартаманьце ЗША.

Канфэрэнцыя распачалася а 9-ай гадзіне ў вялікай залі Выканальнае Гасподы пры Белым Доме. Дакладчыкамі былі сп. Мітчэл Кабэлінскі — дырэктар Дэпартаманту Дробнага Бізнэсу, сп. Майк Бользано — дырэктар Дзяржаўнага Агенцтва „Акцыя", якое займаецца арганізацыяй спэцыяльных эканамічных праграмаў сярод нацыянальных групаў, ды сп. Мірон Куропас — спэцыяльны дараднік Прэзыдэнта Форда ў справах нацыянальнасьцяў — гаспадар і арганізатар канфэрэнцыі. Гэтыя тры адміністратары й дзеячы як у рэспубліканскай партыі, гэтак і сярод сваіх нацыянальных групаў — польскай, італьянскай і ўкраінскай прадставілі праграмы сваіх ведамстваў і пляны, якім спосабам нацыянальныя групы й паасобныя прадпрыемцы могуць карыстаць з гэтых фэдэральных праграмаў. Дарэчы, нашая беларуская група з гэтымі праграмамі мала азнаёмленая ды тым больш, як ведама, мала зь іх карысталася.

Пасьля ранішняе сэсыі ўдзельнікі нарадаў мелі спатканьне з Прэзыдэнтам Джэральдам Фордам. Гэта было на працягу месяца другое маё спатканьне з Прэзыдэнтам, і я выказаў яму асноўныя праблемы й пагляды беларускае групы ў ЗША.

Па абедзе нарады прадаўжаліся ў Дзяржаўным Дэпартаманьце, падчас якіх закраналіся наступныя справы: праблемы Кіпру-Турэччыны, Блізкі Ўсход і амэрыканская палітыка ў дачыненьні да Савецкага Саюзу. Дакладчыкамі былі адказныя ўрадаўцы Дзяржаўнага Дэпартаманту, спэцыялістыя ў розных сфэрах. Для мяне найбольш цікавай была тэма й сэсыя, прысьвечаная дачыненьням із Савецкім Саюзам. Асноўным дакладчыкам на гэтай сэсыі быў Артур Гартман, асыстэнт Дзяржаўнага Сакратара ў справах Усходняе Эўропы. Сфармуляваўшы палітыку Дзяржаўнага Дэпартаманту ў дачыненьні да СССР, дакладчык выказаў меркаваньні й пагляды што да канфэрэнцыі ў Гэльсінках, што мела месца летась. Пасьля ягонага выступленьня была дыскусія й выказваньні паглядаў. Калі выказваньні дакладчыка трывалі каля 30-ёх хвілінаў, дык дыскусія й асабліва войстрая крытыка сяньняшняе замежнае палітыкі ЗША ў дачыненьні да СССР трывала блізу 2 гадзіны. У дыскусіі я зазначыў, што палітыка Дзяржаўнага Дэпартаманту сяньня спрыяе ні беларускім нацыянальным паглядам, ні паглядам беларускае групы ў ЗША, затое яшчэ больш спрыяе русыфікатарскай ды панявольніцкай палітыцы СССР у дачыненьні да Беларусі.

**В. Кіпель**

## УГОДКІ АКТУ 25 САКАВІКА Ў АДЭЛЯЙДЗЕ



**Мяшаны хор пад кіраўніцтвам М. Бурноса выступае на ўгодках Акту 25 Сакавіка ў Адэляйдзе**

28-ыя ўгодкі абвешчаньня незалежнасьці Беларусі 25-га сакавіка 1918 году былі адзначаныя вельмі ўрачыста ў нядзелю 28-га сакавіка сёлета ў Адэляйдзе (Паўдзённая Аўстралія). Дзень гэты стаўся чымся надзвычайным, бо да яго рыхталіся зь вялікім натхненьнем і высокім патрыятычным уздымам.

Беларуская грамада ў Адэляйдзе пастанавіла правесьці нацыянальнае сьвята супольна зь Беларусамі штату Вікторыя. Дзеля гэтага была высланая прапанова Беларускаму Цэнтральнаму Аб'еднаньню ў Вікторыі, каб супольна адсьвяткаваць нацыянальнае сьвята ў Адэляйдзе. Беларускае Аб'еднаньне ў Вікторыі ахвотна адклікнулася на гэтую прапанову. І вось у сыботу 27 сакавіка з самае раніцы пачалі прыбываць госьці зь Вікторыі. Прыяжджалі, хто як мог. Адныя цягнікам, іншыя аўтамі ў розныя гадзіны дня. Праехаўшы каля 700 кілямэтраў, прыбыло 18 асобаў. Кажны зь іх завітаў у залю, дзе іх з радасьцяй сустракалі, як браты братоў, і накіроўвалі ў ужо раней замоўленыя памешканьні ў гасьцяпрыемлівых Беларусаў.

Разам зь іншымі прыбыў з Мэльбурну й а. Аляксандар Кулакоўскі. Ён прыехаў ня толькі дзеля самога сьвяткаваньня, але й прыняў удзел у арганізацыі пасьвячэньня помніка сьв. пам. першаму герарху Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы на выгнаньні Ўладыку Сяргею. Помнік быў пасьвечаны а 3-ай гадзіне дня ў сыботу 27 сакавіка а. Аляксандрам Кулакоўскім з Мэльбурну, а. Георгам, настаяцелем нашае парахвіі, сьвятарамі Грэцкай праваслаўнай царквы ў прысутнасьці беларускіх і грэцкіх вернікаў.

У нядзелю 28 сакавіка быў цудоўны дзень, пагода была цёплая, нідзе ніводная галінка не шалахнулася на дрэве, як быццам сама прырода й Бог дапамагалі нам сьвяткаваць дзень абвешчаньня незалежнасьці нашае Бацькаўшчыны. Ужо з самае раніцы пачалі зьбірацца ў царкву як госьці зь Вікторыі, гэтак і парахвіяне з Адэляйды. Царква хутка напоўнілася вернікамі. Урачыстасьць адправілі: вынас крыжа, літургію й малебен а. Георг і а. Аляксандар, які сказаў узвышанае рэлігійна-патрыятычнае казаньне. Падчас малебену ганаровую варту трымалі сп. Су і сп. Груша. З пачатку й да канца ўсяе Божае Службы вельмі мілагучна пяяў хор пад кіраўніцтвам рэгента М. Бурноса. Хор быў павялічаны прысутнымі гасьцямі зь Вікторыі. Па заканчэньні Малебну хор прапяяў „Многае лета" Мітрапаліту Андрэю, Архіяпіскапу Мікалаю, настаяцелю а. Георгу і ўсім прысутным. Служба Божая закончылася беларускім рэлігійным гімнам „Магутны Божа".

Пасьля Божае Службы ўсе прысутныя перайшлі ў залю, дзе адбылася ўрачыстая Акадэмія й абед. У першую чаргу трэба сказаць шчырае дзякуй нашым энэргічным, працавітым і руплівым жанчынам за падрыхтаваньне смачнага абеду. Калі прысутныя занялі месцы, старшыня Парахвіяльнае Рады К. Станкевіч адчыніў Акадэмію й павіншаваў зь вялікім нацыянальным сьвятам. Ён-жа прачытаў павіншаваньне з днём незалежнасьці ад Беларусаў Вікторыі. Хор пад кіраўніцтвам сп. М. Бурноса й пад акампаньямант акардыяністага сп. М. Кандрацюка прапяяў беларускі нацыянальны гімн „Мы выйдзем шчыльнымі радамі". Старшыня Беларускага Цэнтральнага Камітэту штату Вікторыя сп-ня Э. Яцкевіч прывітала прысутных із сьвятам незалежнасьці й запрасіла Беларусаў штату Паўдзённай Адэляйды супольна адсьвяткаваць угодкі Слуцкага Паўстаньня ў Мэльбурне. Сп. Мікола Нікан прачытаў прывітаньне ад Сэктару Рады БНР у Мэльбурне й паведаміў, што сёлета ў сьнежні адбудзецца ў Мэльбурне Ўсеаўстралійскі беларускі зьезд.

Пасьля кароткага абеду сп. К. Станкевіч прачытаў рэфэрат на тэму дня. Пасьля гэтага пачалася мастацкая праграма пад кіраўніцтвам сп. М. Бурноса. Ён-жа ўвесь час быў і канфэрэньсье. Гэты сябра ніколі не адчувае зморанасьці ў грамадзкай і рэлігійнай дзейнасьці. На працягу ўсёй мастацкай праграмы пад усе песьні акампаньяваў наш здольны акардыяністы сп. М. Кандрусік. У першым нумары мастацкае праграмы выступіла нашая здольная дэкляматарка Ольга Бурнос і прадэклямавала два вершы: „На Сход!" Янкі Купалы й „Паўстань народ, прачніся, Беларусе". Госьць з Мэльбурну Аўген Груша сказаў патрыятычны верш Міхася Машары „25 Сакавік". Тады мяшаны хор выканаў дзьве песьні: „Дзяўчынанька, шуміць гай" і „Вецер вее". Адзін з выдатных дэкляматараў дзесяцігадовы Паўлік Калесьніковіч сказаў два вершы: „Беларусам" Якуба Коласа й „Да волі" А. Змагара.

Сп. Янка Рольсан прачытаў верш „Лес шуміць", які ён сам напісаў і ў якім апяваецца прыгажосьць прыроды Беларусі. Далей згаданы мяшаны хор выканаў песьню „У садзе гуляла" й жартоўную песьню „Сем жаніхоў", якую Галіна Кандрусік прывезла зь Беласточчыны. Сп. Аўген Груша прадэклямаваў жартаўлівы верш Якуба Коласа „Зяць", а Віктар Зелянеўскі — жартаўлівы верш Францішка Багушэвіча „Дзе чорт ня можа, там бабу пашле". Жаноцкі ансамбль выканаў вясёлую веснавую песьню „Ох і сеяла Ульляніца лянок". Сп-ня Надзя Груша выканала солё песьню „Як правёў мяне Цімох".

Настаяцель парахвіі а. Георг прывітаў прысутных із Сьвятам 25 Сакавіка, пажадаў посьпехаў у далейшай працы парахвіі й зазначыў, што, хоць паводля нацыянальнасьці ён Сэрб, але ўжо зьбеларусіўся. Танцавальна-сьпеўная інсцэнізацыя на мэлёдыю „Песьняроў" „Нашто бабе агарод" на словы нашага адэляйдзкага паэты Янкі Рольсана ў вапрацоўцы М. Бурноса і ў выкананьні хору й нашых маладых танцорак Галіны й Лілі Бурносаў ды пад акампаньямант М. Кандрусіка ўскалыхнула заляй і выклікала бурныя воплескі. Мастацкая праграма закончылася дуэтам „Ручнічкі" й „Зорка Вэнэра", выкананым Галінай Кандрусік і Верай Калясьніковіч.

Падсумоўваючы ўражаньні із Сакавіковага сьвяткаваньня, можна сьмела сказаць, што мала бывае гэткіх, як 1976-ы год у Адэляйлзе, калі гэтак урачыста было адзначанае нашае нацыянальнае сьвята. Беларусы Адэляйды жывуць аднэй сям'ёй, ня ведаюць ніякага падзелу: ні на рэлігійным, ні на палітычным, ні моўным груньце, а ўсе працуюць для агульнае беларускае справы. Тут мы маем маленькі куточак Бацькаўшчыны: гэта свая Беларуская царква й собская заля, дзе мы гуртуемся, радзімся й працуем дзеля нашае агульнае нацыянальнае карысьці.

**Прысутны**

## УГОДКІ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ Ў МЭЛЬБУРНЕ

Беларусы Мэльбурну й аколіцаў урачыста адзначылі ўгодкі абвешчаньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі. Сьвяткаваньне адбылося ў нядзелю 4 красавіка сёлета ў Беларускім Доме ў Мэльбурне (Аўстралія).

Сьвяткаваньне адчыніла старшыня Беларускага Цэнтральнага Камітэту сп-ня Ліля Яцкевіч, прывітаўшы суродзічаў з нашым вялікім нацыянальным сьвятам ды заклікаўшы іх да далейшай інтэнсыўнай працы на карысьць паняволенай бацькаўшчыны Беларусі. Далей сп-ня Л. Яцкевіч прачытала прывітаньні ад БАЗА, старшыні Рады БНР В. Жук-Грышкевіча, Згуртаваньня Беларусаў у Вялікай Брытаніі, Каардынацыйнага Камітэту Беларусаў Канады, Парахвіяльнай Рады БАП Царквы ў Адэляйдзе (Паўдзённая Аўстралія) ды ад сп. К. Мярляка.

Рэфэраты на тэму дня ў беларускай мове прачытаў сп. Міхал Шэка, а ў ангельскай — сп-ня Надзя Груша. Абодвы рэфэраты былі зьместоўныя й на высокім узроўні. Мяшаны хор пад кіраўніцтвам сп. П. Мікуліча, як заўсёды, выканаў памастацку чатыры песьні: „Ня прыйдзе нам воля", „Дробны дожджык", „А ў полі вярба" й „Дзед і баба", пасьля чаго пачаліся дэклямацыі. Аўген Груша прадэклямаваў вершы „25 Сакавік" М. Машары й „Зіма", ягоны сын Міхась верш „Да волі", Віця Хрэстоўскі верш „За праўду", Вера Шэйпак верш „Беларуская песьня", Ганна Корбут прапяяла вельмі прыгожым солё песьню „Ручнічок". Урачыстасьць была распачатая аўстралійскім ,а закончаная беларускім гімнамі.

Пасьля афіцыйнае часткі распачаўся традыцыйны ўжо сяброўскі вечар, на якім прысутнічала больш за 50 асобаў. Вечар прайшоў у мілай сяброўскай атмасфэры. Паліліся зноў беларускія песьні, дэклямацыі, жарты. Прысутныя й не агледзеліся, што была ўжо позная пара й трэба было разыходзіцца, бо заўтра — працоўны дзень.

**А. К-а**

**СЬВЯТОЙ ✝ ПАМЯЦІ**

## УЛАДЗІМЕР ВЯРБІЦКІ

**адыйшоў на вечны супачынак 23 лютага 1976 году на 62-ім годзе жыцьця, пра што ў глыбокай жалобе паведамляюць сыны Валентын, Аўген, Эдвард, дачка Алейн Вярбіцкая, і сястра Марыя Дубоўская (Рокфорд, Іліной).**

**Хай амэрыканская зямелька будзе яму пухам!**

## СЬВ. ПАМ. УЛАДЗІМЕР ВЯРБІЦКІ

Пасьля нядоўгай хваробы 23 лютага сёлета адыйшоў на вечны супачынак сьв. пам. Уладзімер Вярбіцкі. Жыцьцё ягонае было вельмі цяжкае. Яшчэ на бацькаўшчыне зусім у маладых гадох застаўся ўдаўцом. Пасьля ў Нямеччыне ажаніўся з Украінкай, пасьля чаго жыцьцё пайшло добрай дарогай. Напрыканцы 1951 году выэміграваў у ЗША з жонкай і двума сынамі. Праз 8 год (1960) жонка памерла ў веку 40 год і пакінула яму трох сыноў, малодшы зь якіх меў два гады. Пасьля сьмерці маці малодшы сын страціў мову, не гаворыць і цяпер і знаходзіцца ў спэцыяльнай школе.

Праз два гады ад сьмерці жонкі ён ажаніўся ўзноў з тутэйшай жанчынай, зь якой мае 14-цьцацігадовую дачку. Аднак апошняя ягоная жаніцьба 6 год таму кончылася развода́м. Старэйшаму сыну ён даў вышэйшую асьвету, які цяпер працуе архітэктарам у Каліфорніі. Разам зь ім працуе й сярэдні сын. Сьмерць сьв. пам. Уладзімера Вярбіцкага, які быў вельмі добрым для дзяцей і сястры, сталася для іх цяжкай стратай.

**Марыя Дубоўская**

## СЬВ. ПАМ. ВАСІЛЬ РАГАЛЕВІЧ

Пасьля кароткай, але цяжкай хваробы неспадзявана адыйшоў на вечны супачынак у маладым яшчэ веку сьв. пам. Васіль Рагалевіч. Ён нарадзіўся 7 лютага 1938 году на Беларусі, а памёр 11 сакавіка 1976 году ў Чыкага, пакінуўшы ў глыбокай жалобе бацьку Івана, матку Ганну, двух братоў Анатоля й Міхаіла з жонкай, сястру Ніну Аганец з мужам Паўлам, чатырох пляменьніцаў і двух пляменьнікаў, а таксама цётку Алесю з мужам Раманам Невержыцкім. Пахароны адбыліся 13 сакавіка. Зь Беларускай Праваслаўнай Царквы Сьв. Юр'я, у якой настаяцель а. Алег Міранович адслужыў сьвятую Ліцію, цела нябожчыка было пахаванае на магільніку Элмвуд Парк у Чыкага.

Сьпі спакойным сном, наш дарагі сынок і родны брат. Мы пра цябе



будзем усьцяж думаць і ўспамінаць. Хай будзе табе пухам амэрыканская зямля!

## САКАВІКОВЫЯ ЎГОДКІ Ў СЫДНЭІ

Сёлетнія ўгодкі абвешчаньня дзяржаўнае незалежнасьці Беларускае Народнае Рэспублікі нашае грамадзтва Сыднэю адсьвяткавала ў нядзелю 28 сакавіка ў залі Беларускага Грамадзка-Культурнага Клюбу. Праграмай урачыстае Акадэміі кіраваў сп. М. Лужынскі. Намесьнік старшыні Клюбу д-р Я. Малецкі ў сваім уступным слове прывітаў прысутных ды коратка нарысаваў палітычныя абставіны ў сьвеце, пры якіх мы адзначалі 58-ыя ўгодкі Акту 25-га Сакавіка.

Рэфэрат на тэму дня прачытаў сп. М. Зуй. Ён расказаў пра змаганьне нашага народу за незалежнасьць свае бацькаўшчыны, кульмінацыйным дасягненьнем якога й быў Акт 25-га Сакавіка, што скінуў няволю Масквы й абвесьціў дзяржаўную незалежнасьць Беларусі. Прэлегэнт папрасіў прысутных хвілінаю цішыні ўшанаваць памяць герояў нашага народу. Сп. М. Зуй заклікаў суродзічаў і надалей усімі сіламі змагацца з камуністычнымі акупантамі ды ўсімі спосабамі памагаць тым, што працуюць для справы вызваленьня нашае бацькаўшчыны Беларусі.

З нагоды нацыянальнага сьвята беларускія арганізацыі ў Сыднэі атрымалі прывітальныя літы ад: Прэзыдэнта Рады Беларускае Народнае Рэспублікі, Сэктару Рады БНР у Вялікай Брытаніі, Каардынацыйнага Камітэту Беларусаў Канады, Беларускае Цэнтральнае Рады, Антыкамуністычнай Лігі Народаў Азіі, Беларуска-Амэрыканскага Аб'еднаньня гораду Нью Ёрк, Беларускага Вызвольнага Фронту, Сусьветнае Антыкамуністычнае Лігі, Беларускага Цэнтральнага Камітэту ў Вікторыі (Аўстралія), Сусьветнае Антыкамуністычнае Лігі Азіі. У лістох гэтых, прачытаных сп-няй А. Каранеўскай і сп. А. Алехнікам, нас віталі з нацыянальным сьвятам, выказвалі сваё падтрыманьне ды жадалі вытрываласьці ў далейшым змаганьні з камуністычным акупантам, які пагражае цяпер загубай ня толькі для нас, але й іншым народам Вольнага Сьвету.

У мастацкай частцы праграмы Алесь Зуй прадэклямаваў верш „Годзе". Сп. Я. Макарэвіч сказаў верш, напісаны ім адмыслова на 50-ыя ўгодкі, ды сп. А. Булаўскі прадэклямаваў верш Янкі Купалы „Я ад вас далёка, бацькаўскія гоні", які моцна ўсхваляваў прысутных, бо Янка Купала, пераэкыўшы сам, вельмі чула й вобразна выказаў тыя пачуцьці, якія сяньня перажывае кажны Беларус на чужыне. Афіцыйная частка ўрачыстасьці закончылася агульным прапяяньнем нашага нацыянальнага гімну „Мы выйдзем шчыльнымі радамі".

Пачался агульная бяседа. Заля зашумела ад гутарак між прыяцелямі й знаёмымі. За смачна падрыхтаваныя стравы належыцца вялікая падзяка сяброўкам Клюбу.

**А. К.**

## У БЕЛАРУСАЎ ЛЁС АНДЖЭЛЕСУ

### ПРЫНЯЦЬЦЕ Ў ІНТЭРНАЦЫЯНАЛЬНЫМ ІНСТЫТУЦЕ ЛЁС АНДЖЭЛЕСУ

26 лютага сёлета ў залі Інтэрнацыянальнага Інстытуту Лёс Анджэлесу адбылося гасьціннае прыняцьце прадстаўнікоў нацыянальных групаў, на якім кіраўніцтва Інстытуту паінфармавала аб ягонай ролі й праграме працы. Інстытут дзеіць ужо 60 год і цяпер асабліва зацікаўлены прыдбаць як найбольш новых сяброў, каб магчы даваць большую помач тым, што яе патрабуюць. Гасьцём на прыняцьці ад Беларусаў быў сп. Ч. Найдзюк. Некаторыя Беларусы ўжо даўно супрацоўнічаюць зь Інстытутам і падтрымліваюць яго.

### ШЛЮБ І ВЯСЕЛЬЛЕ

У нядзелю 27 лютага ў царкве ў Лёс Анджэлесе адбыўся ўрачысты шлюб Алекса Шэлеста з Бэрнардынай Мінор. На шлюбе й на вясельлі было шмат Беларусаў, бо жаніх належыць да ведамай тут беларускай

### НА ЎГОДКАХ ВЫЗВАЛЕНЬНЯ БАЎГАРЫІ

У сыботу 6 сакавіка сёлета перад будынкам Гарадзкой Управы Лёс Анджэлесу адбылася ўрачыстасьць вывешаньня баўгарскага сьцягу ў памяць баўгарскага дня вызваленьня 3 сакавіка 1878 году. Вечарам гэтага дня адбылася баўгарская традыцыйная вечарына, на якой ганаровымі беларускімі гасьцямі былі Ч. і Ю. Найдзюкі.

**Н.**

## ДЗЬВЕ ЎРАЧЫСТАСЬЦІ Ў КЛІЎЛЕНЬДЗЕ

6-га сакавіка сёлета ў Беларускім Грамадзкім Цэнтры „Полацак" у Кліўленьдзе ладзіліся традыцыйныя запусты-бліны. У бальшыні сабраліся харыстыя царкоўнага сьвецкага хораў із сем'ямі ды сябры Арганізацыі Беларуска-Амэрыканскай Моладзі ў Кліўленьдзе. Пасьля бліноў усе прысутныя перайшлі ў прыватны дом сп. Касутся Калошы таксама ў „Полацку".

І толькі тады собсьнік дому даведаўся, у чым справа, калі ўсе прысутныя засьпявалі „Вясёлых урадзінаў, дарагі Кастусь!" Гэтым была выказаная яму ўдзячнасьць за ягоную няўтомную грамадзкую працу ды дапамогу ў арганізацыі хору (ён-жа й сябра хору), у доме якога, яшчэ з пачастункам, часта адбываюцца рэпэтыцыі хору. Таксама пры ягонай дапамозе значна зактывізавалася мясцовая маладзежная арганізацыя. Бяседа праходзіла зь беларускім песьнямі пад акампаньямант акардыяністых Ул. Літвінкі й В. Міраеўскага. На заканчэньне юбіляру Кастусю Калошу быў перададзены прыгожы падарунак.

**С. П.**

**Ад Рэдакцыі:** Рэдакцыйная Калегія газэты „Беларус" шчыра вітае сп. Кастуся Калошу з днём ягонага нараджэньня й жадае яму жыцьцёвае памыснасьці й далейшае плённае працы на беларускай ніве. Сто год!

**ПЛЯКАТ-АФІША ПРА БЕЛАРУСКІ ФЭСТЫВАЛЬ ВЫКАНАНАЯ МАСТАЧКАЙ ІРЫНАЙ РАГАЛЕВІЧ У БЕЛЫМ І ЧЫРВОНЫМ КАЛЁРАХ НА ЧОРНЫМ ФОНЕ. ПАМЕР: 15 НА 22 ІНЧАЎ**

GARDEN STATE ART CENTER
proudly presents
BYELORUSSIAN
FOLK FESTIVAL

SATURDAY, JUNE 12, 1976
SPORTS ACTIVITIES · ART EXHIBIT
STAGE PERFORMANCE
ETHNIC FOOD

Additional information about the Byelorussian Folk Festival is available by calling the GARDEN STATE ARTS CENTER 201-442-8600, ext. 222, 9:00 A.M. to 4:30 P.M. weekdays.

Аб мэтах, плянах і працы ў папярэдніх нумарох „Беларуса" неаднаразова выказваліся арганізатары гэтае першае, паводля свайго мастацкага профілю й арганізацыйнае падрыхтоўкі, імпрэзы. Ня мэта гэтае зацемкі паўтараць папярэднія выказваньні й разважаньні. Я хачу выказацца адно аб наступным:

— арганізацыйны камітэт Фэстывалю й найлепшыя беларускія мастацкія сілы працуюць бесьперапынна й бязынтэрасоўна, каб забясьпечыць якасьць праграмы;

— на маю думку, павінна-б стацца заданьнем кажнае беларускае сям'і прыдбаць на Фэстываль аднаго-двух гасьцей. Гэтым мы забясьпечым і гледача на Фэстываль, і нашым сябром пакажам Беларусь на канкрэтным незабыўным прыкладзе;

— Фэстываль — гэта паказьнік і беларускае культуры, і дынамічнасьці нас ў Амэрыцы.

**За Фэстывальны Камітэт**
**В. Кіпель**



Byelorussian
Heritage Festival

GARDEN STATE ARTS CENTER
SATURDAY, JUNE 12, 1976

## ЦЭНТР МАСТАЦТВАЎ — ЦУДОЎНАЯ МЯСЬЦІНА!

Арганізацыйны камітэт Беларускага Фэстывалю сваё чароднае паседжаньне 28-га красавіка пачаў ад наведаньня тэатру ньюджэрзійскага штатнага Цэнтру Мастацтваў ды парку навокала яго (дарэчы, даезд туды аўтамабілем па Гардэн Стэйт Парквэй вельмі лёгкі; выезд 116-ы; дарога і з поўначы і з паўдня вельмі маляўнічая). Парк і тэатр зрабілі на сяброў камітэту, што былі там упяршыню, нязвычайна прыемнае ўражаньне: прастор, зеляніна, чысьціня, выгодны паркінг. Запраўды прыемнае і самому прыехаць і іншага прывезьці.

Сам будынак тэатру — шэдэўр архітэктуры, збудаваны паводля праекту аднаго з найбольш выдатных архітэктараў Амэрыкі Э. Стоўна, аўтара таксама вашынгтонскага цэнтру мастацтваў імя Дж. Кэнэды. Ньюджэрзійскі Цэнтар Мастацтваў мае форму круглага будынку, у якім нахілены дах, як лётаючая талерка, стаіць на калёнах. Сьценаў у тэатры няма, прастор нутраны пашыраецца навакольным прасторам зеляніны парку й блакіту неба. Сюды варта прыехаць толькі патое, каб паглядзець на гэты вялізманы твор архітэктурнае велічы. А нагода пабыць тут для ахвотнікаў народнага мастацтва будзе нат да Беларускага Фэстывалю, бо падобныя фэстывалі — польскі, славацкі й украінскі — адбудуцца тут 22 і 29 травеня ды 5-га чырвеня. Тут-жа 12-га чырвеня адбудзецца йнаш Беларускі Фэстываль. Тыя, што прыедуць у гэты маляўнічы куток Нью Джэрзі ўпяршыню, будуць радыя, што надарылася гэткая нагода, а кажны каго яны з сабой прывязуць або пераканаюць прыехаць самастойна, ьудзе толькі ўдзячны ім за гэта.

**Янка Запруднік**
**ад імя Арганізацыйнага камітэту**

### „СОТНІКАЎ" В. БЫКАВА Ў ПЕРАКЛАДАХ

Аповесьць беларускага савецкага пісьменьніка Васіля Быкава „Сотнікаў" у перакладзе паітальлянску (пераклад Джавані Спэндэль) — пад заг. „Апошнія тры дні" — выйшла ў мілянскім выдавецтве ў 1974 годзе. „Сотнікаў" выдадзены таксама ў Чэсхаславаччыне (пераклад Ружэны Дваракавай-Сэранавай), Усходняй Нямеччыне (пераклад Томаса Рэшке), Вугоршчыне (пераклад Надзі Элек), Польшчы (пераклад Анджэя Дравіча), Румыніі (пераклад Міхася Мянэску).

### ТЫРАЖ ЛІТАРАТУРНЫХ ЧАСАПІСАЎ

Тры літаратурныя часапісы, што выходзяць у БССР — беларускамоўныя „Полымя" й „Маладосьць" ды расейскамоўны „Неман" — выйшлі гэткімі тыражамі ў сьнежні летась і студзені сёлета:

| | сьн. 75 | ст. 76 |
|---|---|---|
| „Неман" | 118.000 | 126.000 |
| „Маладосьць" | 19.805 | 21.677 |
| „Полымя" | 11.672 | 11.230 |

### ПАРАХВІЯЛЬНЫ СХОД У КЛІЎЛЕНЬДЗЕ

7 сакавіка сёлета адбыўся справаздачна-перавыбарны сход Парахвіі БАПЦ у Кліўленьдзе. За старшыню сходу быў выбраны сп. Я. Раковіч, за сакратара — сп. М. Ягаўдзік. Справаздачу зь дзейнасьці Царкоўнай Рады зрабіў сп. К. Калоша, фінансавую скарбнік В. Валюкевіч і кантрольную сп. Я. Карпейка. У новую Царкоўную Раду Парахвіі былі выбраныя: К. Калоша — старшыня, А. Стрэчань — заступнік старшыні, А. Васілеўскі — сакратар, В. Валюкевіч — скарбнік, К. Каляда, Г. Кананчук і В. Каваленка — сябры Рады. У склад Рэвізыйнае Камісіі былі выбраныя: Вольга Міхальчык — старшыня, А. Яраховіч і Я. Карпейка — сябры. Пасьля дыскусіі пра царкоўныя справы й прыняцьця бюджэту сход закончыўся малітвай Уладыкі Андрэя.

**С. П.**

## САКАВІКОВЫЯ ЎГОДКІ Ў ГАЙЛЭНД ПАРКУ



**Беларуская Дэлегацыя пры падняцьці бел-чырвона-белага сьцягу на Гарадзкой Ратушы ў Нью Брансьвіку**

Незалежна ад удзелу мясцовага беларускага грамадзтва ў сьвяткаваньні 58-ых угодкаў абвешчаньня Беларускай Народнай Рэспублікі ў Нью Ёрку 28 сакавіка, Управа БАЗА ў Нью Джэрзі 4 красавіка наладзіла, хоць і сьціплейшае, але вельмі ўрачыстае сьвяткаваньне гэтых угодкаў у сябе ў Гайлэнд Парку.

Пасьля Сьв. Літургіі ў Царкве Жыровіцкае Божае Маці а. Аляксандар адслужыў за Беларускі народ Малебен, закончаны прапяяньнем беларускага рэлігійнага гімну „Магутны Божа". Пасьля Малебну ўсе перайшлі ў залю Царкоўна-Грамадзкага Цэнтру, дзе, пасьля кароткай перакускі, падрыхтаванай сяброўкамі Жаноцкай Сэкцыі БАЗА, адбылася ўрачыстая Акадэмія, прысьвечаная 58-ым угодкам абвешчаньня незалежнасьці Беларусі. Акадэмію адчыніў старшыня мясцовага Аддзелу БАЗА Сяргей Гутырчык і, пасьля прапяяньня амэрыканскага гімну, папрасіў прысутнага ў залі а. Аляксандра прачытаць малітву.

Пасьля малітвы сябрамі Аддзелу Арганізацыі Беларуска-Амэрыканскай Моладзі Альгердам Кажурам, Міхасём Швэдам і Лявонам Войтанкам былі прачытаныя праклямацыі ў гонар 25 Сакавіка Губэрнатара штату Нью Джэрзі й Бурмістра гораду Нью Брансьвік, а таксама тэксты прамоваў некаторых кангрэсмэнаў, якія з нагоды ўгодкаў 25 Сакавіка былі сказаныя ў Кангрэсе ЗША. Тады сп. С. В. прачытаў зварот Старшыні Рады БНР д-ра В. Жук-Грышкевіча на Дзень угодкаў 25 Сакавіка, а таксама сказаў кароткую прамову на тэму дня. З прывітаньнямі й кароткімі прамовамі выступалі Старшыня Галоўнай Управы БАЗА Антон Шукелайць і Старшыня Акругі БАЗА ў Нью Ёрку мгр. Мікола Кунцэвіч. Урачыстасьць закончылася агульным прапяяньнем беларускага нацыянальнага гімну.

## САКАВІКОВЫЯ УГОДКІ Ў РЫЧМОНД ГІЛ (НЬЮ ЁРКУ)

58-ыя ўгодкі абвешчаньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі Актам 25-га Сакавіка й 200-годзьдзе амэрыканскай дзяржаўнасьці былі ўрачыста адзначаныя 4-га красавіка сёлета. Паводля беларускае традыцыі сьвяткаваньне пачалося Божай Службай і Малебенам за Беларускі й Амэрыканскі народы ў Беларускай Праваслаўнай Царкве Сьв. Кірылы Тураўскага ў Рычмонд Гіл у Нью Ёрку. Служылі: настаяцель а. Сьвятаслаў Коўш, запрошаны а. Мікалай Лапіцкі з Саўт Рывэру й пратадыякан Ул. Кірык. Малебен закончыўся беларускім рэлігійным гімнам „Магутны Божа".

Урачыстая Акадэмія адбылася ў залі Амэрыканска - Беларускага Грамадзкага Цэнтру ў Рычмонд Гіл, якая распачалася амэрыканскім гімнам. Старшыня Беларуска-Амэрыканскага Аб'еднаньня сп. К. Мерляк адчыніў Акадэмію прывітаньнем прысутных і гасьцей. У сваёй прамове затрымаўся над падзеямі 200 год таму назад у Амэрыцы й 58 год таму ў Беларусі, перайшоўшы да сучаснага палажэньня ў сьвеце й магчымасьці вызваленьня Беларусі спад расейска-камуністычнай акупацыі.

Рэфэрат на тэму дня прачытаў д-р Вітаўт Кіпель, у якім прадставіў уклад Беларусаў у будову амэрыканскае дзяржаўнасьці. Гаворачы аб падзеях ад 25-га сакавіка 1918 году й да сяньня, дакладчык цьвердзіў, што сьвяткаваньні Дня Беларускай Незалежнасьці павінны адбывацца ў духу грамадзкага адзінства й кансалідацыі сілаў для адзінае мэты — народнага дабра.

Далей выступіў з прамовай Кангрэсмэн Джозэф П. Адабо, які, пасьля прывітаньня прысутных, сказаў, што й Беларусь павінна быць свабоднай дзяржавай, як і Амэрыка, і што ён верыць, не зважаючы на часовую няспрыяльную палітычную каньюнктуру, гэта можа стацца вельмі хутка.

Пасьля выступленьня з прывітаньнямі прысутных прадстаўнікоў ад іншанацыянальных арганізацыяў і амэрыканскага грамадзтва д-р В. Кіпель прачытаў прывітаньне ад Сэнатара Джэмса Д. Баклі, а сп. К. Мярляк пералічыў выдадзеныя праклямацыі Губэрнатараў штатаў Канэктыкат, Нью Джэрзі, Род Айлэнд, Масачусэтс ды Іліной, а таксама бурмістрам гораду Нью Ёрк. Далей былі прачытаныя прывітаньні ад некаторых сэнатараў і кангрэсмэнаў ды ад беларускіх арганізацыяў у Вольным Сьвеце. Урачыстая частка Акадэміі была закончаная беларускім нацыянальным гімнам.

Падчас банкету адбылася мастацкая частка праграмы, у якой выступалі браты Даніла й Вінцусь Мерлякі, якія на акардыёнах выканалі „Люблю наш край" і „Дзьве гітары".. Зь песьняй „Лявоніха" выступілі сёстры Хрыстына й Надзя Захаркевічы, а Вінцук Мерляк прадэклямаваў верш „Ты мой брат, каго звацъ Беларусам" Алеся Гаруна — апошнія вучні Беларускае Школы. Перад выступленьнем танцавальнай групы Аддзелу Арганізацыі Беларуска-Амэрыканскай Моладзі ў Нью Ёрку „Мяцеліца" сп-чна Раіса Станкевіч прадэклямавала верш „Дзяды" Ларысы Геніюш, а сяброўкі згаданае танцавальнае групы выканалі памастацку два беларускія народныя танцы „Вяночак" і „Мяцеліца".

Словам а. Мікалая й малітваю было закончанае сьвяткаваньне.

**Прысутны**

### ЛЕАНІД ПЛЮШЧ ПРА БЕЛАРУСЬ

Зь Леанідам Плюшчам мне давялося бачыцца й гутарыць у горадзе Лівінгстон, Нью Джэрзі, 31 сакавіка сёлета. Перш-наперш колькі слоў аб самым Плюшчу, нядаўным зьняволеным у Савецкім Саюзе, якога на дамаганьне заходняга грамадзтва й асабліва Камуністычнай партыі Францыі савецкія ўлады выпусьцілі разам із сям'ёй на Захад.

Пагляды ягоныя бясспрэчна ня супадаюць поўнасьцяй з паглядамі незалежніцкіх украінскіх палітычных канцэпцыяў, але няма найменшага сумлеву, што гэта пагляды украінскага патрыёта.

Мая гутарка зь ім закранала шмат тэмаў, але найбольш цікавіла мяне ягонае папярэдняе выказваньне аб дысыдэнтах у Беларусі й Малдавіі. Нажаль, сам Плюшч з дысыдэнтамі ў БССР беспасярэдняй сувязі ня меў, хоць зь некаторымі праявамі дысыдэнства ў Савецкай Беларусі знаёмы. Цясьнейшую сувязь зь Беларусяй мелі Украінцы Сьвятлічны, Дзюба й некаторыя іншыя. Значная хваля дысыдэнства ў Савецкай Беларусі праявілася ў галіне рэлігійнай. На сяньняшні дзень Беларусь налічвае каля тысячы арыштаваных за рэлігійныя перакананьні.

Зыркім прыкладам „дысыдэнства" (у значаньні савецкім) ёсьць ведамы ансамбль „Песьняры". У дысыдэнты іх залічалі дзеля іхных намаганьняў трымацца беларускага рэпэртуару. Відавочна іхны супраціў быў зламаны й беларускі рэпэртуар ансамблю стала й настойліва выцясьняецца расейскімі песьнямі. Л. Плюшч уважае, што калі гэты ансамбль будзе й надалей выказваць моцную цягу да беларускага народнага рэпэртуару, ён будзе разьвязаны. Наагул на думку Плюшча, цяга да народнага, нацыянальнага, як у выпадку зь „Песьнярамі", гэтак і ў дачыненьні да этнаграфіі, нацыянальнае гісторыі, грамадазнаўства — прыгавораная партыяй і расейшчынай да зьліквідаваньня.

**В. Зубкоўскі**

# ШТО ЧУВАЦЬ?

**Дзьве новыя навуковыя працы сп. Міхася Стрэчыня, спэцыялістага біяфізыкі й біястатыстыкі,** напісаныя ў суаўтарсьцьве з дактарамі мэдыцыны й унівэрсытэцкімі выкладчыкамі, апублікаваныя ў часапісах „Кэрэнт Рысэрчэс (т. 54, № 6, ліст.-сьнеж. 1975 г., бб. 800-805) і „Сэрджэры" (т. 79, № 2, люты 1976 г., бб. 218-223).

**У чародным нумары (сакавік 1976 г.) часапісу Беларускіх Вэтэранаў „Зважай"** зьмешчаныя: артыкул „Падняты родны сьцяг!", працяг нарысу „Моталь", адказ „Голасу Радзімы" — „Пшык з вас будзе!", лісты ў рэдакцыю, абвесткі.

**Кніга ўспамінаў др. Я. Малецкага „Пад знакам Пагоні"** выйшла ў выдавецтве „Пагоня", у якім яе можна й купіць (цана 5,50 дал.) зь перасылкай. Адрыс выдавецтва:

PAHONIA Publishers.
524 St. Clarens Ave..
Toronto. Ont. Canada.

Кніга (200 бач.) прыгожа аформленая, чыста выдрукаваная ды, што найважней, вельмі добра напісаная — чытаецца лёгка, зь цікавасьцяй і з карысьцяй, калі хто хоча ведаць пра поўны людзкое драмы й трагедыі пэрыяд Другое сусьветнае вайны на Беларусі.

"A GRAMMAR OF BYELORUSSIAN" by Peter J. Mayo выйшла сёлета ў супольным выдавецтве Англа-Беларускага Таварыства ў Лёндане й Славянскага Аддзелу Шэфільдзкага ўнівэрсытэту, дзе праф. Маё выкладае. Кніга вялікага фармату, мае 66 старонак друку. У ёй разьдзелы пра альфабэт, націск, вымову й правапіс, марфалёгію, прыметнікі, лічбоўнікі, займеньнікі, дзеясловы, прыслоўі, прыстаўкі, злучнікі, часьціцы, бібліяграфія. Аўтар граматыкі трымаецца савецкага зрусыфікаванага правапісу.

**Даклад др. Я. Запрудніка „Праблемы тэрміналёгіі й пэрыядызацыі беларускае гісторыі",** чытаны летась у кастрычніку на славістычнай канфэрэнцыі ў гор. Атлянта ў штаце Джорджыя, апублікаваны ў часапісе Асацыяцыі Вывучэньня Нацыянальнасьцяў СССР і Усходняе Эўропы "Nationalities Papers" (т. 3, № 2, восень 1975 г., бб. 25-45). Там-жа зьмешчная й дыскусія на тэму дакладу.

**У сёлетнім вялікодным нумары рэлігійна-грамадзкага часапісу БАПЦ „Голас Царквы" (№45, красавік 1976 г.):** „Вялікоднае Архіпастырскае Пасланьне", арт. „Сьвята Тройцы — Сёмуха", „Кангрэгацыя (рэлігійны сабор) у Пінску ў 1790 годзе", „200-ыя ўгодкі незалежнасьці Злучаных Штатаў Амэрыкі", „Клопаты атэізму", „БАПЦарква ў Вялікай Брытаніі", „Лягенда пра Мар'ін-Горку" (А. Асіповіча), хроніка.

**Кандыдатура сп-ні Еўдакіі Жызьнеўскае ў „Хорам Славы" (Гол оф Фэйм)** гораду Чыкага выстаўленая ад імя царквы Хрыста Збаўцы й Беларускага Каардынацыйнага Камітэту Чыкага, як пра гэта падаў прэсавы камунікат Аддзелу для Старэйшых Грамадзянаў гарадзкое ўправы гор. Чыкага. Увод у „Хорам Славы" ў Чыкага запачаткаваны быў у 1962 годзе. Гэткім спосабам горад ушаноўвае сваіх старэйшых грамадзянаў, якія, пасьля 62-га году жыцьця, даюць паважны ўклад у грамадзкія й культурныя справы гораду. Сёлета ўвод у „Хорам Славы" новых 50-ёх сяброў спасярод двухсот намінаваных адбудзецца 6 траўня на адпаведнай урачыстасьці ў гарадзкой управе Чыкага.

**Польскі часапіс „Культура"** (за студзень-люты сёлета) зьмясьціў падборку нататак свайго супрацоўніка Віктара Сукеньніцкага на тэмы беларускага эміграцыйнага жыцьця (бб. 150-154).

**„Песьняры" ў Францыі** — пра гэта падала ў кароценькай нататцы амэрыканская газэта „Ст. Адванс" (21. III. 76), узяўшы вестку з паведамленьня агенцтва „Юнайтэд Прэс Інтэрнашэнал" з францускага гораду Каны.

**У падрыхтоўцы сёлетняе палітычнае праграмы Дэмакратычнае партыі,** як даведваемся з паінфармаваных крыніцаў, абмяркоўваецца пытаньне дыскрымінацыі беларускае мовы ў праграмах радыя „Голас Амэрыкі" й дамаганьне ўвядзеньня беларускае мовы ў праграму гэтага радыя.



# У АМЭРЫКАНСКІМ ДРУКУ ПРА ВЫСТАЎКУ Ў МЕНСКУ

Газэта „Нью Ёрк Таймс" за 22 сакавіка сёлета апублікавала даўжэйшы артыкул свайго карэспандэнта Дэйвіда Шыплера зь Менску пра тое, як праходзіла там амэрыканская выстаўка „Тэхніка ў амэрыканскім доме". Выстаўка адчынілася ў Менску 11 лютага сёлета. Менск быў апошнім з шасьцёх гарадоў Савецкага Саюзу, дзе выстаўка паказвалася на працягу пятнаццацёх месяцаў. Карэспандэнт газэты „Нью Ёрк Таймс" у сваім паведамленьні піша, што ў вадрознасьць ад наведвальнікаў выстаўкі ў іншых савецкіх гарадох — Баку, Ташкеньце, Ленінградзе, Маскве й Запарожжы — у Менску наведвальнікі закідвалі гідаў выстаўкі масай войстрых крытычных пытаньняў, якія часта нічога супольнага з выстаўкай ня мелі. Амэрыканскім гідам ня цяжка было заўважыць, як зьяўляліся тыя самыя асобы і, пасьля кароткае нарады пасярэдзіне выставачнае залі, разыходзіліся ў розныя канцы выстаўкі задаваць ізноў тыя самыя крытычныя прыдзірлівыя пытаньні. Часта, не даслухаўшы адказу да канца, гэныя „наведвальнікі" адыходзілі: адказы, відаць, іх найменш цікавілі.

Паводля аднаго з 22-х гідаў выстаўкі, студэнта Прынстанскага ўнівэрсытэту Томаса Робэртсана, толькі дваццаць працэнтаў пытаньняў датычыліся да жыцьця ў Амэрыцы. Наведвальнікі выстаўкі, піша карэспандэнт газэты „НЁТ"" на аснове апытаньня гідаў, прадэманстравалі вельмі выкрыўленае ўяўленьне пра Амэрыку. Гэтак, прыкладам, яны ведаюць, піша ён, што ў Амэрыцы ёсьць беспрацоўе, але ня ведаюць, што ёсьць грашовая дапамога тым, хто бяз працы; ведаюць, што мэдычная апека каштуе дорага, але ня ведаюць, што ёсьць мэдычная страхоўка; ведаюць, што шмат трэба плаціць за асьвету, але ня ведаюць, што ёсьць стыпэндыі, і г. д. Дзіўна, што няправільнае ўяўленьне пра Амэрыку, піша карэспандэнт, не зьмянілася ад палепшаньня амэрыканска-савецкіх дачыненьняў.

Як выявілі гутаркі карэспандэнта „НЁТ" зь гідамі выстаўкі, сярод жыхароў Савецкага Саюзу пераважае ўражаньне, што Амэрыка складаецца з капіталістаў і беспрацоўных, што адныя жывуць у высокіх небасягах, а другія — паміраюць на вуліцах, сядзяць у дамох без электрычнасьці або ганяюцца адзін за адным з рэвальварамі, як на „Дзікім Захадзе". У гэтым сэньсе, піша „НЁТ", савецкая прапаганда выявіла сябе эфэктыўнай.

Падобную карэспандэнцыю зьмясьціла таксама газэта „Крышчэн Сaенс Монітар" (16. III. 76), карэспандэнтка якое, Элізабэт Понд, наведала Менск.

У беларускім савецкім друку пра амэрыканскую выстаўку ня было пададзена аніякае інфармацыі, за выняткам адно голага паведамленьня БЕЛТА (гл. „Зьвязда" й „Сов. Бел." за 12 лютага 76 г.) пра тое, што адбылося адчыненьне выстаўкі (ня былі пададзеныя нат гадзіны, калі яна адчыненая для наведвальнікаў).

**Я. З.**

# УГОДКІ 25 САКАВІКА Ў ЛЁС АНДЖЭЛЕС

Дзеля ўшанаваньня 58-ых угодкаў абвешчаньня дзяржаўнай незалежнасьці Беларусі Бурмістр гораду Лёс Анджэлес Том Брэдлі пераслаў мясцовым Беларусам сваю праклямацыю пра абвешчаньне дня 25 сакавіка 1976 году Днём Незалежнасьці й закліку у ёй грамадзян гораду падтрымаць імкненьні Беларускага народу да вольнасьці й незалежнасьці шляхам самавызначэньня. У праклямацыі выказаная надзея, што Беларусы, як мужны й волялюбны народ, змогуць узноў вярнуць сабе адабраную ад іх незалежнасьць.

У нядзелю 28 сакавіка ў залі Украінскай Каталіцкай Царквы ў Голівудзе адбылася сьвяточная праграма, прысьвечаная 58-ым угодкам Акту 25 Сакавіка, якая была наладжаная ад імя Аддзелаў БАЗА й Арганізацыі Беларуска-Амэрыканскай Моладзі ды Прадстаўніка БККА. Пачаў праграму сп. Часлаў Найдзюк кароткім уводным словам, а кіравала праграмай сп-ня Каця Вініцкая. Былі адыграныя амэрыканскі гімн і беларускі рэлігійны гімн „Магутны Божа". Праклямацыю Бурмістра Тома Брэдлі прачытала Аня Вініцкая. Сп. Ч. Найдзюк прачытаў прывітаньні: ад Беларускага Каардынацыйнага Камітэту ў Чыкага, падпісанае ягоным старшынём Васілём Пунтусам; Беларускага Кангрэсавага Камітэту, падпісанае старшынём Іванам Касяком; Амэрыканскіх Прыяцеляў Беларускай Цэнтральнай Рады, падпісанае старшынём інж. Эмануэлям Ясюком; Прадстаўніка БККА на штат Калярада Хведара Шыбута, а таксама пераказаў з прыватнага ліста прывітаньне д-ра Язэпа Сажыча.

Рэфэрат на тэму дня паангельску прачытала Карнэля Найдзюк. Тэкст Акту 25 Сакавіка 1918 году быў прачытаны сп. Чаславам Найдзюком. Хвілінаю цішыні была ўшанаваная памяць усіх тых, каго жыцьцё, працу й змаганьне за незалежнасьць Беларусі спыніла сьмерць. Прывітаньне вершам зь Беларусі прачытаў сп. Ч. Найдзюк. Вершык пабеларуску сказаў вучань 4-ай клясы пачатковай школы Віктар Найдзюк. Прыгожа памастацку прадэклямавала верш Янкі Купалы „Над Нёманам" сп-ня Каця Вініцкая. Свой уласны верш „Сакавіковыя ўгодкі" ўмела прачытаў сп. Пётра Ермін.

У музычнай частцы праграмы першай выступіла Ніна Канвэк, адыграўшы на гітары й прапяяўшы дзьве песьні паангельску "I will follow" і "Into your hands". Соня Вуіч адыйграла на акардыёне "Man Without love", "Hungarian dance № 4", Лявоніху й Юрачку. Урачыстая праграма закончылася беларускім нацыянальным гімнам. Супольны пачастунак даў нагоду ўдзельнікам свабодна падзяліцца думкамі й перажыць пачуцьцё высокага ўздыму, выкліканага моцным патрыятычным духам і зьместам усяго сьвяткаваньня.

**Н.**

### АБАРОНА МЕНСКУ Ў „НЬЮ ЁРК ТАЙМСЕ"

У сувязі з артыкулам у газэце „Нью Ёрк Таймс" (22. III. 76) пра амэрыканскую выстаўку ў Менску (гл. у іншым месцы гэтага нумару), інж. Анатоль Цярэшка, нядаўны мянчанін, што разам зь сям'ёю ўцёк на Захад, напісаў у рэдакцыю „НЁТ" ліст у вабарону добрага ймя жыхароў беларускае сталіцы. Ліст быў зьмешчаны ў нумары газэты за 10 красавіка. Вось ягоны тэкст:

„Як падаў ваш карэспандэнт Дэйвід Шыплер, найгорш была сутрэтая выстаўка ў маім родным горадзе Менску. Я разумею пачуцьці амэрыканскіх гідаў, але за кароткі час, які я пражыў у Амэрыцы, я пабачыў, што Амэрыканцы, ацэньваючы амэрыканска-савецкія дачыненьні, у бальшыні выпадкаў кіруюцца не пачуцьцямі, а глядзяць на рэчы цьвяроза й аб'ектыўна. Я хацеў-бы, каб цьвяроза было адцэнена й тое, што здарылася ў Менску.

„Дазвольце зьвярнуць вашую ўвагу на тое, што Менск уважаецца за адзін з найбольш культурных гарадоў Савецкага Саюзу. Жыхары Масквы й Ленінграду, якія наведваюць беларускую сталіцу, вельмі часта адзначаюць больш заходні выгляд гораду ды гасьціннасьць ягоных жыхароў.

„Грубіянства-ж, якое прадэманстравалі менскія крытыкі на амэрыканскай выстаўцы, трэба тлумачыць як сьведамую правакацыю, арганізаваную адпаведнымі савецкімі органамі ды падстаўнымі асобамі — дзеяньне, што бярэ свой пачатак за сьценамі Крамля.

„Менску выпала нядоля прыймаць у сябе выстаўку ў часе войстрае крытыкі Савецкага Саюзу амэрыканскім грамадзтвам, калі падкрэсьлівалася крытычнае стаўленьне Прэзыдэнта Форда да палітыкі дэтанту. Працяг савецкае антыамэрыканскае кампаніі, ўзмоцненае апошнімі часамі, відаць па ўсім савецкім друку, ня толькі беларускім, у якім поўна хлусьні й ненавісьці да Задзіночаных Штатаў, якое ня было нат за часамі халоднае вайны.

„Ці-ж савецкія пагрозы пра бомбы ў амэрыканскім пасольсьцьве ў Маскве — не працяг тае самае лініі трыманьня ў дачыненьні да Амэрыканцаў, якую мы бачылі і ў Менску?"

### ДА ЧЫТАЧОЎ

У гэтым нумары газэты, нажаль, не ўдалося зьмясьціць усяго матар'ялу пра сакавіковыя сьвяткаваньні. Ён будзе зьмешчаны ў наступным нумары. Выбачаемся за адклад і дзякуем за прысланьне.

**Рэдакцыя**

# НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД "БЕЛАРУСА"

**У лютым 1976 году паступілі ў касу нашае газэты падпіска й наступныя ахвяры на Выдавецкі Фонд „Беларуса":**

### I. ЗША:

**1. Прыслана беспасярэдня ў Рэдакцыю:**

| | |
|---|---|
| 1. Д-р Л. Трусэвіч | $25.00 |
| 2. С. Антонік | 20.00 |
| 3. В. і М. М. | 20.00 |
| 4. П. Драздоўскі | 20.00 |
| 5. В. Лукашэвіч | 15.00 |
| 6. М. С. | 15.00 |
| 7. П. Нягода | 10.00 |
| 8. Ю. Найдзюк | 10.00 |
| 9. А. Вазноніс | 10.00 |
| 10. А. Каравайчык | 10.00 |
| 11. Я. Шымчык | 10.00 |

**Разам: $165.00**

### II. АНГЕЛЬШЧЫНА:

**Пераслана сп. Янкам Калбасой ад Беларусаў Брадфарду:**

| | | |
|---|---|---|
| 1. Беларускі Грамадзкі Клюб „Сакавік" | анг. фунтаў | 50 |
| 2. Я. Калбаса | " | 3 |
| 3. М. Віценчык | " | 3 |
| 4. С. Мак | " | 3 |
| 5. А. Калько | " | 3 |
| 6. Хв. Лемяшонак | " | 2 |
| 7. М. Камароўскі | " | 1 |
| 8. М. Швадзюк | " | 1 |

**Разам:** 66 анг. фунтаў ,якія атрыманыя Рэдакцыяй з Брадфарду, як іхную раўнавартасьць — $132.23

### III. ФРАНЦЫЯ:

| | |
|---|---|
| 1. Е. Трусаў | $22.00 |
| 2. М. Наўмовіч | 11.04 |
| 3. Л. Шыманец | 11.04 |
| 4. Юрчык | 2.20 |

**Разам: $46.28**

**IV. Заплачана цераз сябру Рэдкалегіі „Беларуса" сп. Браніслава Даніловіча:**

| | |
|---|---|
| 1. Р. В. | $ 30.00 |
| 2. Аддзел БАЗА ў Нью Дж. | 25.00 |
| 3. Рэстаран Шака | 25.00 |
| 4. Сэктар Рады БНР у Н. Дж. | 25.00 |
| 5. Л. Стагановіч | 20.00 |
| 6. Л. Хвалько | 20.00 |
| 7. А. Кудасаў | 20.00 |
| 8. А. Субота | 20.00 |
| 9. М. Каранеўскі | 20.00 |
| 10. М. Войтанка | 20.00 |
| 1. Ч. Ханяўка | 20.00 |
| 12. П. Кажура | 15.00 |
| 13. Д. Дзядовіч | 12.00 |
| 14. Б. Даніловіч | 10.00 |
| 15. Матушка М. Войтанка | 10.00 |
| 16. Ю. Навумчык | 10.00 |
| 17. В. Стома | 10.00 |
| 18. М. Касьцюк | 10.00 |
| 19. Ю. Станкевіч | 10.00 |
| 20. А. Дубяга | 10.00 |
| 21. В. Марчанка | 10.00 |
| 22. С. Дубоўскі | 10.00 |
| 23. І. Люты | 10.00 |
| 24. Д. Дашкевіч | 10.00 |
| 25. А. Балкоўскі | 10.00 |
| 26. Я. Сокал | 10.00 |
| 27. В. Сьліўка | 10.00 |
| 28. Я. Кузьменка | 10.00 |
| 29. Я. Місюль | 10.00 |
| 30. К. Стрэш | 10.00 |
| 31. В. Бычкоўскі | 10.00 |
| 32. К. Міраговіч | 10.00 |

**Разам: $ 462.00**
**Усяго разам: $ 807,51**

**Усім тым, што прыслалі грошы, Рэдакцыйная Калегія „Беларуса" выказвае шчырае беларускае дзякуй!**

# НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД "БЕЛАРУСА"

**У сакавіку 1976 году паступілі ў касу нашае газэты падпіска й наступныя ахвяры на Выдавецкі Фонд „Беларуса":**

### I. ЗША:

**А. Прыслана беспасярэдня ў Рэдакцыю:**

| | |
|---|---|
| 1. М. Дубоўская | $ 25.00 |
| 2. В. і М. М. | 20.00 |
| 3. С. Грамыка | 15.00 |
| 4. М. Александровіч | 15.00 |
| 5. Х. Ш. | 12.00 |
| 6. С. Шабовіч | 10.00 |
| 7. П. Пецька | 10.00 |
| 8. А. Пятроў | 1.00 |

**Разам: $108.00**

**Б. Заахвяравана на сьвяткаваньні ўгодкаў 25 Сакавіка ў Нью Ёрку:**

| | |
|---|---|
| 1. Д-р Ул. Набагез | $ 25.00 |
| 2. Ул. Дутка | 20.00 |
| 3. Л. Хвалько | 10.00 |
| 4. А. Махноўская | 10.00 |
| 5. З. Станкевіч | 10.00 |
| 6. Ф. і В. Бартулі | 10.00 |
| 7. А. Вожык | 7.50 |
| 8. Г. Архацкі | 5.00 |
| 9. А. Шукелайць | 5.00 |
| 10. М. Кіпель | 5.00 |
| 11. В. і Н. Стома | 5.00 |
| 12. З. Кіпель | 5.00 |
| 13. Галубовіч | 5.00 |
| 14. В. Міцкевіч | 5.00 |
| 15. А. Міцкевіч | 5.00 |
| 16. П. Міраговіч | 5.00 |
| 17. Ананімна | 5.00 |
| 18. Прат. а. В. Кендыш | 2.50 |
| 19. М. Войтанка | 2.50 |
| 20. А. Русак | 2.50 |
| 21. Ул. Русак | 2.50 |
| 22. Д-р В. Тумаш | 2.50 |
| 23. Б. Даніловіч | 2.50 |
| 24. Я. Азарка | 2.50 |
| 25. П. Кажура | 2.50 |
| 26. Г. Галяк-Агоніс | 2.50 |
| 27. Ананімна | 2.00 |
| 28. Ю. Касьцюкевіч | 1.00 |
| 29. Т. Януш | 1.00 |
| 30. С. Гутырчык | 1.00 |
| 31. Ананімна па аднаму й менш | 13.00 |

**Разам: $185.50**

### II. КАНАДА:

**Заплачана прадстаўніку „Беларуса" на Канаду сп. А. Маркевічу:**

| | |
|---|---|
| 1. В. Касьцюкевіч | $ 20.00 |
| 2. М. Багдан | 10.00 |
| 3. А. Лабэцкі | 10.00 |
| 4. М. Стэльмашэк | 10.00 |
| 5. А. М. | 10.00 |
| 6. Б. Кірка | 10.00 |
| 7. Я. Чорны | 10.00 |
| 8. Ул. Гуцька | 10.00 |
| 9. Я. Бурдзь | 10.00 |
| 10. М. Такушэвіч | 10.00 |
| 11. Клюб „Пагоня" | 10.00 |
| 12. А. Маркевіч | 10.00 |
| 13. А. Протас | 7.00 |

**Разам: $137.00**

### III. АЎСТРАЛІЯ:

**Заплачана прадстаўніку „Беларуса" ў Мэльбурне сп-ру М. Нікану**

**$ 210.50**

**Усяго разам: $ 640.50**

### IV. КНІЖНЫ ФОНД:

За 3-ці том „Выбраных твораў" Максіма Гарэцкага М. Нікан $11.13 і Ч. Найдзюк $20,00, **разам: $31.13,** якія ў прыбыткі газэты не ўваходзяць.

**Усім тым, што прыслалі грошы, Рэдакцыйная Калегія „Беларуса" выказвае шчырае беларускае дзякуй!**

**Усіх тых, што атрымліваюць газэту ад сябры Рэдакцыйнае Калегіі й нашага прадстаўніка ў Нью Джэрзі Браніслава Даніловіча, ветліва просім на ягонае імя й ягоны адрыс перасылаць ці перадаваць і грошы на газэту.**